

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская

№ 2 (135). 6 — 12 студзеня 2000г. • Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. • Кошт 50(50.000) руб.



**Нынешний праздник по-особенному торжественен, поскольку завершается не только год, но и век, и тысячелетие благодати Господней. Великий Юбилей 2000-летия Христианства — эпохальная дата во вселенской истории. Именно это тысячелетие, которое мы ныне провожаем, стало для нашего народа временем просвещения светом Евангелия.**

**С радостью хочу отметить, что наша епархия в уходящем году жила полноценной духовной жизнью. Открыты новые приходы, освящены храмы, начало свою деятельность духовное училище. Духовенство и миряне трудятся на ниве Господней в школах, больницах, воинских частях, домах престарелых.**

**Возлюбленные в Господе отцы, братия и сёстры!**

**Примите наше Архипастырское благословение о Христе Рождающемся с пожеланием благоденствия, духовного совершенствования и спасения. Да благословит Богомладенец всех вас благодатным миром и спокойствием. Да умастит елеем радования разум и сердца людей, мыслящих злое! Да подаст каждому, чающему добра и жизни вечной, рукою щедрою...**

## С Рождеством Христовым!



**Слава Тебе, Богу, Благодетелю нашему, во веки веков. Аминь.**

***ИЗ ПОСЛАНИЯ ГУРИЯ, ЕПИСКОПА НОВОГРУДСКОГО И ЛИДСКОГО***

# У МУСУЛЬМАН — ПРАЗДНИК

**С Рамадан-Ураза Байрамом!**

Дорогие братья и сестры в Исламе!

Завершается священный месяц Рамадан — месяц поста, и наступает радостный и светлый праздник Рамадан-Ураза Байрам.

Совет Объединения мусульман Слонима поздравляет вас с праздником и желает здоровья, счастья, благополучия в семьях, жить в мире и согласии со своими соседями разных вероисповеданий. Призываем вас искренне молиться и не забывать о доброте и милосердии в эти и последующие дни.

Поздравляем христиан с их святым праздником Рождества Христова. Желаем здоровья, мира и взаимопонимания в этой нелегкой и сложной жизни.

**Сулейман БАЙРАШЕВСКИЙ, председатель Объединения мусульман Слонима**

# ЗЛАДЗЕЙСТВА ЯК СПОСАБ ВЫЖЫВАННЯ

Ужо на працягу многіх гадоў на Беларусі бытуе вясёленькае двухрадкоўе:

*Каб сёння жыць у шчасці,*
*Трэба красці, красці,*
*красці...*

Такая філасофія зладзейства з'яўляецца як бы апраўданнем эканамічнай нестабільнасці нашай дзяржавы. Кожны крадзе згодна з займаемай пасадай і месцам працы. Але мне хацелася пагаварыць пра простых людзей, для якіх зладзейства стала ўмоваю выжывання. І, сапраўды, нізкія заробкі і хранічныя затрыманні іх выплаты прымушаюць чалавека шукаць нейкае выйсце. Менталітэт нашага чалавека такі, што ён згодзен парушаць закон (красці), а не пратэставаць, бо галосна адстойваць свае чалавечыя правы, ісці на адкрыты канфлікт з уладаю ён лічыць большым злом, чым зладзейства. І цікава тое, што за крадзёж начальнік можа пакараць, а можа і не пакараць, а то і зусім не заўважаць факт крадзяжу.

Напрыклад, неяк калгаснікам, як і брыгадам ад цэнтра занятасці насельніцтва, што капалі бульбу ў Мастоўскім раёне, дазвалялася паўафіцыйна браць штодня кошык бульбы. Дзе кошык, там і два. Некаторыя гараджане спецыяльна на асноўнай працы бралі адпачынак і ездзілі ў калгас. Бывала за адзін дзень прывозілі не кошык, а мех бульбы. Такім чынам на зіму рабіўся запас. Потым да гэтага кіраўнікі гаспадарак паставіліся больш строга, але без кошыка бульбы ўсё роўна ніхто дахаты не вяртаўся. Колькі гаспадарак недалічыліся прадукцыі, можна толькі здагадвацца. Але гэта яшчэ не ўсё. Крадуць бульбу не толькі тыя, хто капае, але і тыя, хто адвозіць яе з поля. Яны бяруць ужо не кошыкамі, а мяхамі. Буртаўшчыкі таксама выбіраюць лепшыя клубні ды хаваюць у бліжэйшы лясок, каб вечарам вывезці. Звычайна, крадзеным кожны распараджаецца як можа. Адныя нясуць дамоў, іншыя прадаюць, а большасць мяняюць на гарэлку. Акрамя таго, у калгасах і саўгасах існуе пэўны дэфіцыт паліва, але ніхто: ні старшыні калгасаў, ні механізатары не купляюць ні бензіну, ні салярку для ўласнай тэхнікі. Мала таго, больш прадпрымальныя з іх прадаюць гаручае. А ў заходніх раёнах Беларусі некаторыя напаўняюць поўны бак аўтамабіля палівам, бяруць яшчэ з сабою дзве пляшкі гарэлкі ды блок цыгарэт, перасякаюць мяжу, там жа, каб зарабіць дзесятак даляраў, усё прадаюць і вяртаюцца назад. З гэтага і жывуць, бо за некалькі мільёнаў калгаснага заробаку не пражывеш. Да гэтага яшчэ трэба дадаць, што крадуць зерне, запчасткі, сена, салому, буракі, будаўнічыя матэрыялы... На дачных участкі за пляшку гарэлкі вывозяць з фермаў гной.

Карацей, крадуць усе, не толькі вяскоўцы. Вось паглядзіш на тое, што зараз робіцца, і дзіву даешся, куды мы коцімся?

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### ЗДАРЭННІ

## Задыхнуліся дзеці

**Напярэдадні свята ў вёсцы Падбалоцце Зэльвенскага раёна ў сям'і Анатоля Кузьміча здарылася трагедыя.**

Гаспадар паехаў па справах у Ваўкавыск, а яго жонка пайшла на ферму, пакінуўшы без нагляду дзвюх дачушак: чатырохгадовую Алёнку і Насцю 1997 года нараджэння. Дзяўчынкі знайшлі запалкі і, гуляючы з імі, падпалілі сяннік. Ад едкага дыму дзеці задыхнуліся.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Дах згніў і абваліўся

**Вечарам 31 снежня 1999 года абваліўся дах свінафермы вёскі Вецявічы калгаса імя Дзяржынскага Слонімскага раёна.**

Па словах старшыні гаспадаркі Чэслава Шмігіры, пад руінамі загінула некалькі галоў свіней. На шчасце, людзі не пацярпелі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### НАВІНЫ

## Такси дорожает

**Министерство транспорта и коммуникаций Беларуси утвердило новый верхний предельный уровень тарифа за предоставление услуг легковыми автомобилями-такси.**

Сейчас он составляет 115 рублей за один километр пробега (с учетом деноминации), 1 150 рублей за один час простоя у клиента, 115 рублей за каждую посадку (при включении таксометра) сверх платы за пробег и простой.

**БелаПАН**

### НАВІНЫ

## В новый год с новой минималкой

**С 1 января 2000 года минимальная заработная плата в Беларуси увеличится на 51,7 процента и составит 2 миллиона 200 тысяч неденоминированных рублей.**

Тарифная ставка первого разряда вырастет в 1,5 раза — с 3 миллионов до 4 миллионов 500 тысяч рублей, при этом для работников бюджетной сферы, которые имеют первый разряд, предусмотрена ежемесячная доплата в размере 3 миллионов рублей (ранее — 2 миллиона).

Предыдущее повышение минимальной зарплаты произошло 1 октября (до 1 миллиона 450 тысяч рублей). За прошедший период она обесценилась почти на треть — с 2 долларов 74 центов до 1 доллара 84 центов в пересчете по рыночному наличному курсу.

**БелаПАН**

## Ідзе прызыў у войска

**10 студзеня ў Слоніме пачнецца адпраўка мясцовых хлопцаў у беларускае войска.**

Плануецца, што служыць Айчыне пойдзе амаль сто слонімскіх хлопцаў. Па словах супрацоўніка ваенкамата маёра Ігара Кныша, сёлета адпраўка ў войска адбываецца ў сціслыя тэрміны.

Апошняя каманда слонімскіх прызыўнікоў будзе адпраўлена ў пятніцу, 21 студзеня, а ў вобласці прызыў закончыцца 30 студзеня.

## Першыя дзеці 2000 года

**За першыя тры дні 2000 года ў радзільным аддзяленні слонімскай раённай бальніцы нарадзілася трое дзетак: дзве дзяўчынкі і хлопчык.**

Першым на свет з'явіўся сын Наталлі Траскевіч з вёскі Дзеравная. Гэта адбылося раніцай 2 студзеня. Другой (3 студзеня) нарадзілася дзяўчынка, дачка сланімчанкі Таісіі Аўдзейчык.

За мінулы год у радзільным аддзяленні было прынята 670 родаў. Па словах загадчыка аддзялення Алега Гулінскага, нараджаюць дзетак у мясцовай бальніцы не толькі сланімчанкі, але і жыхаркі Зэльвенскага, Дзятлаўскага і іншых раёнаў.

**Сяргей ЁРШ**

## Балтийские волны

**1 января в Вильнюсе начала работу новая радиостанция - "Балтийские волны".**

До выпуска собственной продукции, она будет ретранслировать на частоте 612 KHz (средние волны) другие неподконтрольные властям Беларуси белорусскоязычные станции - Радио Свобода, Радио Рация, белорусскую программу Польского радио. Последняя, к слову, ретранслируется теперь ежедневно, с 19.30 до 20.00, и количество эфирных часов "Балтийских волн" будет неуклонно увеличиваться. Главным редактором новой радиостанции стал известный журналист Сергей Шупа.

**БелаПАН**

## Навагодні "сюрпрыз" з вадою

**Слонімскі водаканал неаднаразова прыпадносіў своеасаблівыя сюрпрызы з вадою жыхарам вуліц Скарыны, Брэсцкай, Яршова, Тапалёвай і Косаўскі тракт. Асабліва гэтыя "сюрпрызы" слонімцы адчуваюць летам, калі няма гарачай вады, а халодная падаецца з перабоямі.**

А 31 снежня водаканал зноў сапсаваў настрой палове жыхароў Слоніма. Ужо з раніцы ў кранах знікла вада: ні халоднай, ні гарачай, а калі сяды-тады яна з'яўлялася, дык нагадвала брудную рыжую вадкасць. І так увесь дзень, а вечарам яе зусім не стала.

У слонімскім водаканале паведамілі, што такая сітуацыя склалася з-за вялікага перарасходу вады, попыт на якую ў перадсвяточныя дні павялічыўся ў 5 разоў. Аднак, калі ўжо наша начальства нешта зробіць, каб нарэшце зніклі праблемы з вадой? Бо колькі ўжо можна здзекавацца над людзьмі!..

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ПОЛИТИКА

# А.ЛУКАШЕНКО УГОТОВАН, В ЛУЧШЕМ СЛУЧАЕ, "ПОСТ ГУБЕРНАТОРА РОССИЙСКОЙ ПРОВИНЦИИ"

**Известный белорусский политолог Александр Потупа прогнозирует значительные изменения в белорусско-российских отношениях вследствие отставки Бориса Ельцина с поста президента России.**



Фота IREX/ProMedia

По его словам, Владимир Путин — достаточно жесткий политик и поэтому "следует ожидать, что Беларуси будут выставляться достаточно жесткие требования в плане поведения". "Я думаю, что в течение ближайшего месяца руководству Беларуси придется принимать даже некие защитные меры, поскольку они могут пасть жертвой своих интеграционных сверхусилий", — предположил Александр Потупа.

Что касается непосредственно отставки Бориса Ельцина, то, по словам А.Потупы, она прогнозировалась еще в конце лета — начале осени, и связывалось это с приходом нового премьер-министра. А когда начались боевые действия в Дагестане и Чечне, произошли теракты, стало ясно, что "речь идет об искусственном выведении регента и наследника, и ясны даже были сроки, когда это должно было произойти: конец осени — середина зимы". Сложившаяся ситуация с отставкой президента, по мнению Александра Путина, стала возможной благодаря тому, что "рейтинг Путина на максимуме и цены на нефть не упали и, видимо, где-то до марта будут держаться, выборные технологии отработаны". В то же время, считает он, к лету, когда должны были состояться президентские выборы, все могло резко измениться и наследник мог просто не пройти".

Что касается предстоящих в марте президентских выборов, то, по мнению А.Потупы, "если они пойдут не так как надо, то, скорее всего, будут признаны недействительными". И все же А.Потупа считает, что у Владимира Путина есть большие шансы стать вторым президентом Российской Федерации.

Председатель Белорусской социал-демократической партии (Народная Громада) Николай Статкевич назвал сегодняшнюю отставку президента России Б.Ельцина и передачу президентских полномочий премьер-министру В.Путину "ожидаемым" ходом Кремля. По его словам, было очевидно, что в последнее время идет активная "раскрутка" премьер-министра, с тем, чтобы привести к власти человека лояльного к "семье". Частью этой раскрутки, считает председатель БСДП (НГ), стало развязывание войны на Кавказе и "игры" в белорусско-российскую интеграцию. Передача президентских полномочий В.Путину, сказал Н.Статкевич, имеет два положительных момента: во-первых, сейчас рейтинг В.Путина достиг своего пика. Однако в дальнейшем, по мере затягивания решения чеченской проблемы, популярность премьера, по мнению Н.Статкевича, будет постоянно снижаться; во-вторых, после завершившейся парламентской гонки все партии, способные выдвинуть своего кандидата на пост президента, морально и финансово истощены. "Можно с большой долей вероятности утверждать, что В.Путин станет новым президентом России", — сказал Н.Статкевич.

Как считает лидер БСДП (НГ), после смены руководства, Россия начнет "серьезно заниматься интеграцией" на выгодных для нее условиях. В новом союзе, сказал он, А.Лукашенко уготован, в лучшем случае, "пост губернатора российской провинции". Поэтому, по мнению председателя партии, А.Лукашенко вынужден будет скорректировать свой внешнеполитический курс и начать поиски "альтернативных путей на Западе".

**БелаПАН**

ЗДАРЭННІ

## Папарыцца не давялося

**За дзесяць мінут да пачатку новага года ў Слоніме па вуліцы Касаўскі тракт здарыўся пажар.**

Слонімец П. так "накачагарыў" печ сваёй лазні, што будынак успыхнуў, нібы порах.

## Злодзеі святкуюць па-свойму

**У апошні дзень мінулага года ў слонімскую міліцыю звярнуўся жыхар вуліцы Ружанскай і паведаміў, што ноччу невядомы ўкраў з яго куратніка 7 курэй.**

А вось слонімец Ш. ужо затрыманы за тое, што ў пераднавагоднюю ноч украў гарэлку і прадукты са склепа жыхара вёскі Тальказўшчына Слонімскага раёна.

## Стукнуў па-брацку

**Перад навагоднім святам у раённую бальніцу з нажавым раненнем быў дастаўлены жыхар вёскі Ваўчуны Слонімскага раёна.**

Калецтва яму прычыніў родны брат падчас сямейнай разборкі.

Узбуджана крымінальная справа.

## Не абрабавалі, але падпалілі

**На тэрыторыі Слонімскага гарадскога рынку загарэўся адзін з гандлёвых кіёскаў.**

Пажарныя ўстанавілі, што невядомыя наўмыснікі зламалі дзверы і ўчынілі падпал гандлёвага кіёска, які належыць прыватнаму прадпрымальніку К. Агнём знішчана тавару на суму 200 млн. недамінаваных рублёў.

Узбуджана крымінальная справа.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Чарговае абмежаванне

**Упраўленне "Мастырайгаз" давяло да ведама сваіх кліентаў, што, у сувязі з недахопам звадкаванага газу, газавыя балоны будуць запраўляцца вагой па 15 кг.**

Пры тым адзначаецца, што і гэта норма наўрад ці вырашыць праблему дэфіцыту газу.

**Антон МАКЕЙ**

## Прызначэнне

**Першым намеснікам старшыні Мастоўскага райвыканкама, начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання прызначаны Сяргей Штарноў.**

Да гэтага ён працаваў галоўным ветэрынарным урачом у калгасе "Прагрэс" Гродзенскага раёна.

Сяргей Штарноў замяніў Адама Кавалька, які некалькі месяцаў назад узначаліў Астравецкі райвыканкам.

## Запраграмаванае беспрацоўе

**Мастоўскі райвыканкам на сваім пасяджэнні разгледзеў праграму занятасці насельніцтва раёна на 2000 год.**

Згодна з ёй прадугледжваецца, што ў цэнтр занятасці звернецца 1400 чалавек і толькі 680 з іх будуць працаўладкаваны, 350 атрымаюць грашовую дапамогу. На 01.01.2000 года на ўліку ў цэнтры занятасці было зарэгістравана 400 беспрацоўных.

## Ліквідацыя

**Напярэдадні Новага года ліквідавана паштовае аддзяленне Лупачы Мастоўскага раёна, як нерэнтабельнае.**

Яно абслугоўвала пяць вёсак, дзе зараз пражывае 80 чалавек, большая частка якіх — пенсіянеры.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Навагоднія клопаты

**Змена года прымусіць работнікаў паштовай сувязі пайсці на дадатковыя выдаткі.**

У прыватнасці, неабходна будзе правесці змену ўсіх паштовых штэмпеляў.

## Новы дырэктар

**Пасля заўчаснай смерці Аляксандра Седляра, дырэктарам саўгаса "Мастоўскі" прызначаны Аляксандр Мармыш.**

Да гэтага ён працаваў намеснікам старшыні калгаса імя Адама Міцкевіча.

**Антон МАКЕЙ**

## Печальная статистика новогодней ночи

**В новогоднюю ночь — с 31 декабря на 1 января — в результате семи несчастных случаев в республике погибли 4 и были ранены 3 человека. 6 граждан в эту ночь добровольно расстались с жизнью.**

Что касается других происшествий, то во время празднования наступления Нового года за распитие спиртных напитков в общественных местах и появление в общественных местах в нетрезвом виде сотрудниками органов внутренних дел задерживались 578 граждан, 81 из них доставлялись в медвытрезвители. За управление автотранспортом в нетрезвом состоянии было задержано 90 водителей.

**БелаПАН**

# МАСКВА І МІНСК. ПОГЛЯД СА СЛОНІМА

### Ці ўзарвецца кампот?

Адшумелі, адгрымелі выбары ў Дзяржаўную Думу Расіі. Многія палітыкі і звычайныя людзі думаюць-гадаюць, што будзе з нашай так званай саюзнай дзяржавай, ці скончыцца, нарэшце, палітычная барацьба і палепшыцца наш дабрабыт.

У адным сваім інтэрв'ю вядомы расійскі алігарх Беразоўскі, не хаваючы радасці, заявіў: "Барацьба за ўладу ў Расіі закончылася." Не сакрэт, што менавіта ён у многім фарміруе расійскую знешнюю і ўнутраную палітыку. Дзякуючы яго намаганням, у кароткі час быў створаны блок "Адзінства", які на выбарах заняў другое месца ўслед за камуністамі.

Цяпер Дзяржаўная Дума Расіі нагадвае кампот. Адзін з кампанентаў гэтага кампоту — вышэй згаданае пуцінскае "Адзінства", у якім сабраліся прадстаўнікі і розных ідэалогій, і розных поглядаў. Там прысутнічаюць і супрацоўнікі спецслужбаў, і прыстасаванцы, і перабежчыкі з іншых фракцый, якія адчулі, адкуль дзьме вецер. "Адзінства" не такое маналітнае, як здаецца на першы погляд. Яно ўзарвецца ў любы момант, як толькі аслабнуць пазіцыі яго лідэра Уладзіміра Пуціна, што ў бліжэйшы час малаверагодна. "Адзінства" у асобе лідэра адкрыта прэтэндуе на вышэйшую ўладу ў Расіі — прэзідэнцкую. Такую ж задачу ставіць перад сабой і фракцыя камуністаў, якая стаіць у апазіцыі да ўлады. Значыць, у бліжэйшы час на прасторах Расіі разгорнецца цяжкая і зацятая барацьба за ўладу.

Як бы водбліскам гэтай барацьбы з'явілася навагодняе пажаданне Жырыноўскага Генадзю Зюганаву: "Жадаю, каб увесь наступны год ён прахварэў." Як стаеннік, адкормлены на дзяржаўнай канюшні, лідэр ЛДПР ужо рвецца ў бой.

Свой погляд на дзяржаўнае ўладкаванне мае "Яблык" на чале з Рыгорам Яўлінскім. Яшчэ не сказалі свайго слова тонкі і хітры дыпламат і разведчык Прымакоў і настойлівы Лужкоў з камандай. Даўно плятуць тонкую, але досыць трывалую сетку інтрыг правыя — Кірыенка, Нямцоў, Чубайс. У Думе гэтага склікання нямала алігархаў тыпу Беразоўскага, якія прысутнічаюць літаральна ў кожнай фракцыі. Зубы ў іх адточаныя, а хватка бульдожая. Як выказаўся адзін з расійскіх палітыкаў, Расіяй цяпер кіруюць усе, толькі не рускія.

Для Мінска, для яго палітычнай эліты выбары ў расійскую Думу, несумненна, з'яўляюцца паражэннем. Там цяпер сабралася многа ўплывовых асоб, якія не любяць нашага Лукашэнку.

У такім выпадку, ці палепшыцца абяцаны нам у бліжэйшы час дабрабыт? З упэўненасцю можна канстатаваць: у бліжэйшы час, тужэй зацягнуўшы паясы, мы будзем назіраць за палітычнай бітвай на прасторах Расіі і гадаць, ці ўзарвецца расійскі кампот.

### Ракіроўка ў Крамлі

Аб тым, што палітычная барацьба ў Расіі не закончылася, сведчыць нядаўняя заява Барыса Ельцына, што ён скідае з сябе паўнамоцтвы Прэзідэнта. Не будзем гадаць, ці па добрай волі ён гэта зрабіў. Бясспрэчна адно: яго апрацоўка даўно вялася, і за такі крок ён атрымаў гарантыі для сябе і сваёй сям'і.

(Працяг на 3 стр.)

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Падпісана да друку 5 студзеня 2000г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8200 экз.
Заказ № 20

ФЕЛЬЕТОН

# Дарагая Інэс

Якое шчасце! Зноў па тэлевізару бразільскі серыял. І зноў ты ў галоўнай ролі, родненькая наша Інэс. Ты ўжо была ў нас не раз, то Нісі, то Рут, то Ракель. А цяпер вось Інэс. Каб ты бачыла, як мы цябе тут любім. Як пачынаецца ваш бразільскі серыял, то мы ўсю работу кідаем. У дзіцячых садках малыя равуць, а нянькі на цябе ўзіраюцца. У кухараў з апошняга, лічы, мяса катлеты сінім полымям гараць, а кухары тыя ў экран уставіліся і не дыхаюць. Па два разы ў дзень пра цябе кіно паказваюць, а мы ўсё ніяк не наглядзімся. Каб і тры паказвалі, то глядзелі б. Некаторыя ныцікі, што яшчэ з застойных часоў у наша грамадства перапаўзлі, па сакрэту скажу, табой не задаволены. Кіно, кажуць, доўгае і без сэнсу. Не вер, родненькая! Добрае кіно. І чым яно даўжэйшае, тым лепш. Аднойчы была па тэлевізару перадача, дык чалавек з экрана нам, мільёнам гледачоў, дулю скруціў і проста ў нос тыцнуў. Нават я, далёка не дваранскага паходжання, і то аж падскочыла.

Або газету нядаўна ўзяла ў рукі, расійскую. А там фотакартачка хлапчаняці, які ў свае трынаццаць гадзікаў здзейсніў сотні крадзяжоў. І апова́д пра яго, як удалося дабіцца такіх вялікіх поспехаў.

А яшчэ ў той газеце была фотакартачка трынаццацігадовай дзяўчынкі, якая дзіцятка нарадзіла і здзейсніла вялікі подзвіг, не кінуўшы яго пад плотам. Гадуе. Во пра каго пішуць, каго фатаграфуюць. Тыя, хто хлеб вырошчвае ды ўбірае, рэдка ўдастойваюцца такога гонару. А што пра іх пісаць? Якія там у іх асаблівыя поспехі. Упіраюцца ад зары да зары і капейкі атрымліваюць. Тое хлапчаня, што крадзе, за дзень больш нажыве, чым калгасны трактарыст за год.

Яшчэ гэтыя ныцікі з застойных часоў кажуць, што ты ў сям'ю мармуровага



караля ўлезла, што з-за цябе ён са сваёй кабетай разводзіцца. Пашанцавала табе, Інэс, што ў тваёй Бразіліі няма райкамаў партыі (праўда, і ў нас іх ужо няма), а то паказалі б табе Кузькіну маць за маральнае разлажэнне. Там такую любоў выдалі б — ні піць, ні есці тыдзень не ўзяла б, не тое, што збольшага памяць страціла, а забылася б, як цябе звалі. Або на прафсаюзным сходзе цэбар з памыямі на галаву адзелі б і сказалі, што так і было. А як ты думала? У нас маральныя ўстоі цвёрдыя, як скарынка ў торбе жабрака. Некалі граф Леў Талстой напісаў пра няшчаснае каханне Ганны Карэнінай, што пад поезд у роспачы кінулася. І ў школах гэты твор вывучалі, захапляліся чыстым і высакародным пачуццём. А цяпер з газетнай старонкі піск раздаецца, што распусніца была гэта Карэніна. І граф Талстой, маўляў, таго ж поля ягада, раз яе ў творы ўвекавечыў. Чаго цяпер толькі не пішуць, галубка! У нашым грамадстве, маўляў, такія жанчыны не патрэбны. Нам патрэбны, каб з ранку да вечара насілкі з растворам на трэці паверх цягалі і ўсміхаліся, каб на ферме як след упіраліся і далей каровінага хваста нічога не бачылі. Гэткія Геркулесы ў спадніцах. Без пэўнага полу. "Навошта тое каханне. Ад яго адна згуба", — кажуць ныцікі.

І яшчэ. Памятаеш, у фільме "Жорсткі анёлак", дзе ты іграла ролю Нісі, твая мама ў маладосці цябе па дурасці кінула, а потым столькі гадоў пакутавала і шукала. А нашы бабы як кінуць дзяцей, то і не ўспомняць. Колькі яшчэ такіх пакінутых! Тысячы! А аднойчы чытаю ў газеце: адна кабета-вырадак мяняе сваё грудное дзіця на кватэру. І газета за яе заступаецца: а як жа не мяняць, калі небарака не мае жылля. Амаль дзесяць гадоў у турме адсядзела, вярнулася на волю, а тут, бачыце, кватэру ёй не падрыхтавалі, бессаромныя. Дык яна дзіцятка нарадзіла і хоча абмяняць на жыллё. А другое, заспакойвае газета, народзіць і сама будзе гадаваць. Калі не памяняе на халадзільнік ці якую шафу. А што ты думаеш? Гэтак будзе паціху раджаць і за дзетак усю абстаноўку справіць. Во да чаго дайшло, родненькая. І самае жудаснае ў тым, што некаторыя газеты гэтыя гнойнікі грамадства на першы план высоўваюць, як усё роўна неахайная гаспадыня памыйнае вядро пасярод хаты ставіць. Дык, начытаўшыся такіх газет, нагледзеўшыся фільмаў пра забойствы ды згвалтаванні, тваё кіно як бальзам на раны. Хоць на нейкую гадзіну забудзешся на духоўнае жабрацтва, што пануе наўкола.

А ўвогуле, Інэс, у нашага народа добрая і высакародная душа. Проста пра гэта цяпер мала гавораць.

Хто ж яго ведае, можа і ў нас калі настануць лепшыя часы, але, як казаў адзін класік, мы з табою, мусіць, не дачакаемся.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ПОЧТА

# МЕЛОЧЬ, А НАСТРОЕНИЕ ИСПОРТИЛИ

У нас двое деток. Мы пригласили домой Деда Мороза, осталось купить елочку. Муж за ней поехал в лесхоз. Дождался машину. Привезли елочки маленькие, кривые, однобокие, жидкие. Люди уходили с пустыми руками, ни с чем пришёл домой мой муж. На следующий день отправился он туда снова. А где ещё в городе можно купить елку? Елочных базаров в микрорайонах нет (мы живём на "Энке"), а если елки и привезут, то попробуй узнай — куда и когда? На этот раз вернулся муж с елкой, какую вчера покупать не хотел. Говорит, опять елки некрасивые, а какая попушистей, ту с машины в сторону отбрасывали: куму, брату, свату...

Посмотрела я на принесённую елку, и настроение новогоднее прошло. Мне кажется, что некоторые, потеряв надежду купить приличную елку, отправились за ней в лес, махнув рукой и на штрафы.

**Наталья Р.**

# НЕ ПАДВЁЗ, ДЫ ЯШЧЭ І АБЛАЯЎ

На мінулым тыдні ў рэдакцыю "ГС" прыйшла жыхарка Слоніма Вера Аляксееўна і паведаміла вось якую гісторыю.

25 снежня 1999 года ў 21 гадзіну 40 мінут я спяшалася на аўтобус № 3, каб патрапіць на камвольна-прадзільную фабрыку. Да прыпынку "Аўтарамзавод" заставалася метраў дваццаць, як пад'ехала "тройка". Я пабегла, каб паспець. Побач са мной імчала жанчына з дзіцём на руках. Але як толькі мы хацелі зайсці ў салон, вадзіцель зачыніў дзверы і крануўся з месца. Мы нават пастукалі па дзвярах, але вадзіцель, хоць і бачыў нас, не спыніўся. Мы з жанчынай дайшлі да прыпынку, што насупраць магазіна "Кветкі" на Шасейнай вуліцы, каб дачакацца тую ж самую "тройку" і паглядзець у вочы вадзіцелю. Хутка пад'ехаў аўтобус, мы зайшлі ў салон і запыталі ў шафёра: чаму ён так не палюдску зрабіў? Але замест тлумачэння, ён аблаяў нас адборнымі мацюкамі. Абураная, я выйшла з аўтобуса і пазваніла дыспетчару аўтапарка, каб даведацца прозвішча грубіяна. Мне сказалі, што гэта быў вадзіцель Я.

**Ад рэдакцыі "ГС":**

Мы гэтым разам не друкуем прозвішча вадзіцеля. Лічым, што ён пазнае сябе і, можа, зробіць адпаведныя высновы. Аднак...

Карэспандэнт "ГС" усё ж па тэлефоне звязаўся з дырэктарам аўтапарка №3 Уладзімірам Нікалаевым, каб кіраўнік прадпрыемства выказаў свае тлумачэнні адносна гэтага выпадку. Але Уладзімір Мікалаевіч катэгарычна адмовіўся. Ён сказаў, што не збіраецца даваць якія-небудзь каментарыі недзяржаўнай газеце.

# ПРЫЗНАННЕ Ў ЛЮБОВІ

Не ведаю, як у каго, а ў маёй памяці разам з любоўю да сваёй малой радзімы, Бабруйшчыны, дзе прайшло маё маленства і юнацтва, захавалася яшчэ прыязнасць і замілаванне да некаторых іншых куткоў роднага краю. І першае месца сярод іх займае Слонімшчына.

З гісторыі Беларусі я ведаю, што пад кіраўніцтвам слонімскага старосты і канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі складаўся славуты Статут гэтай дзяржавы, якую ролю ў стварэнні ў Слоніме ў 18 стагоддзі капэлы, тэатра і балетнай школы адыграў гетман вялікі літоўскі, мецэнат Міхал Казімір Агінскі, які цудоўна іграў на скрыпцы і арфе, займаўся літаратурнай творчасцю, пісаў вершы і оперныя лібрэта.

Хвалюе мяне і асоба Міхала Клеафаса Агінскага, кампазітара і палітычнага дзеяча, удзельніка паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, аўтара знакамітага паланеза "Развітанне з радзімай".



Фота Міхася ЖЫЛЮКА

*Алег ЛОЙКА, Мікалай АЎРАМЧЫК і Іван МІСКО*

Яшчэ больш зацікавіла мяне Слонімшчына пасля аб'яднання Беларусі ў 1939 годзе. Тады я пазнаёміўся з паэзіяй яе ўраджэнцаў Анатоля Іверса і Валянціна Таўлая, з якімі асабіста сустрэўся пасля вайны.

Паэзія Валянціна Таўлая ашаламіла і ўразіла мяне сваёй рамантычнай узнёсласцю і рэвалюцыйным пафасам.

Крыху пазней жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч прывезла мяне на Слонімшчыну ў Вялікую Кракотку, дзе адзначаўся юбілей бібліятэкі імя Янкі Купалы. Яе яшчэ пры Польшчы стварыў няўрымслівы прапагандыст і прыхільнік Купалавай паэзіі Аляксандр Іванавіч Жыткевіч. Мы былі гасцямі ў гэтага цікавага чалавека.

Тады я ўпершыню пабачыў маляўнічыя краявіды Слонімшчыны і зразумеў, чаму гэты куток называюць беларускай Швейцарыяй.

А яшчэ пазней мне пашчасціла мець непасрэднае дачыненне да друкавання ў "Маладосці" першых вершаў слонімскіх пачаткоўцаў Алега Лойкі, Міколы Арочкі і Івана Чыгрына.

Потым са знакамітым паэтам і вучоным Алегам Лойкам я неаднойчы наведваў Слонімшчыну, выступаў у яе школах, меў шчасце быць госцем у бацькоў Алега Антонавіча.

У апошнія гады лёс звёў мяне яшчэ з адным славутым сынам слонімскай зямлі, Лаўрэатам дзяржаўнай прэміі СССР, заслужаным дзеячам мастацтва, скульптарам Іванам Міско. Я ведаю, што Іван Міско, як і Анатоль Іверс, як і Іван Чыгрын, як і многія іншыя слынныя сыны Слонімшчыны, вучоныя, вайскоўцы, журналісты, нарадзіўся ў вёсцы Чамяры.

Калі б на Беларусі ў кожным раёне былі хоць адны такія Чамяры, дык, мабыць, не такі воблік меў бы наш край і, напэўна, зусім іншымі былі б беларусы.

**Мікалай АЎРАМЧЫК, пісьменнік, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Купалы, заслужаны работнік культуры РБ**

# МАСКВА І МІНСК. ПОГЛЯД СА СЛОНІМА

Ракіроўка ў Крамлі найперш была патрэбна Пуціну і тым, хто за ім стаіць. Уладзіміра Пуціна некаторыя называюць бяссрэбнікам і рамантыкам у палітыцы. Думаецца, што яны ўсё ж памыляюцца або, як кажуць у нас, наводзяць цень на плячо. Рамантыкі не ўзначальваюць спецслужбы. Ні адзін рамантык з упартасцю д'ябла не стане бамбіць Чачню, як гаворыцца, налева і направа, за што Захад параўноўвае гэту вайну з другой сусветнай.

**Уладзімір Пуцін у палітыцы — жорсткі малады прагматык**

Што атрымаў Пуцін ад ракіроўкі ў Крамлі?

1. Рэальныя і неабмежаваныя рычагі ўлады для правядзення прэзідэнцкай кампаніі.

2. Знянацку застаў канкурэнтаў, не даў ім магчымасці падрыхтавацца да зацяжной прэзідэнцкай гонкі.

3. Пазбавіў Дзяржаўную Думу магчымасці ўплываць на падзеі менавіта ў гэты час, бо яна яшчэ не мае кіруючых органаў.

4. Пуцін выйграў час. Цяпер у яго высокі рэйтынг сярод выбаршчыкаў. А ці палепшыцца жыццё расіян праз паўгода, што ў адпаведнай ступені паўплывае на яго папулярнасць?

Цяпер Пуціну абавязкова трэба выйграць ваенную кампанію ў Чачні і пад пераможныя гукі фанфараў сесці на трон у Крамлі.

Што атрымаў Мінск ад ракіроўкі ў Крамлі? Аляксандр Лукашэнка хваравіта сустрэў заяву Барыса Ельцына, назваўшы яе для сябе палітычнай стратай. Думаецца, што ён знаходзіцца ў глыбокім шоку. Калі раней было спадзяванне, што з хворым Барысам можна было дамовіцца аб перадзеле ўлады, то цяпер яно згінула. Перспектывы беларускага лідэра цьмяныя і незайздросныя.

**Беларусь у рэанімацыі**

Сёння Беларусь ляжыць у рэанімацыі. Рэзка пагоршыўся яе эканамічны і палітычны стан. Рэальная страта той незалежнасці, якую мелі — гэта вынік таго, што памкнуліся стаць часткай Расіі. Каб не сканаць эканамічна, беларускае кіраўніцтва, як цуда, чакае ад Расіі лекаў. А цуды, як вядома, бываюць толькі ў казках.

Мусіць, як былі мы правінцыяй Расіі, так і засталіся ёю. А так хочацца пасапраўднаму быць еўрапейскай дзяржавай.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

